## ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА: БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ? (ПАЧАТАК НА СТР.3)

Калі прасачыць за магілёўскай прэсай, то можна заўважыць, што з тых часоў погляды праваслаўных актывістаў адносна Пакроўскай царвы крыху змяніліся.

“Адным з храмаў, якія патрабуюць тэрміновага аднаўлення, ёсць Свята-Пакроўскі храм, што месціўся на беразе Дняпра непадалёк ад Свята-Мікольскага жаночага манастыра. Храм быў зруйнаваны ў 1948 годзе. Некалькі гадоў таму каля падмуркаў і падвалаў, якія захаваліся, быў усталяваны паклонны крыж. Праваслаўныя хрысціяне мяркуюць, што святое месца мусіць быць годна адзначана – на месцы храма Божага, пашкоджанага вайной і сцертага да аснавання пры савецкай уладзе, павінен быць адноўлены такі ж храм, які ёсць адным з унікальных помнікаў Магілёўскай школы дойлідства XVII стагоддзя”, - пішуць у газеце “Вячэрні Магілёў” ад 16 ліпеня 2014 года трое праваслаўных прыхільнікаў адраджэння храма. Пры гэтым яны выказваць абсалютную нязгоду з планамі стварэння забаўляльнага парку побач са святым месцам.

“Парку не будзе перашкаджаць ні новая царква, ні адноўленая. Я лічу, што на Падніколлі можа існаваць парк, Мікольскі манастыр, Пакроўская царква. Але яна мусіць быць адноўлена. Трэба браць прыклад з Віцебска. Там у цэнтры горада аднавілі дзве царквы, якія на тым месцы былі, і так, як яны выглядалі першапачаткова”, - адзначае ў сваю чаргу Ігар Пушкін.

Ён нагадвае, што ў Магілёве ад Магілёўскай школы дойлідства засталіся толькі Свята-Мікольская царква, “і то сапсаваная сучаснымі роспісамі”, і навабуд – адбудаваная Ратуша.

“Пакроўская царква ў стылі Магілёўскай школы дойлідства - гэта ўжо само па сабе з’яўляецца ўнікальнасцю. Гэта ж наша роднае, магілёўскае, чаго няма ні ў якім іншым месцы”, - падкрэслівае гісторык.




■ ИА «Могилёвские ведомости

## ПРЕДСТАВЛЕНА АРХИТЕКТУРНАЯ КОНЦЕПЦИЯ АДМИНИСТРАТИВНО-ДЕЛОВОГО ЦЕНТРА НА МЕСТЕ БЫВШЕГО ДОМА БЫТА



В предлагаемой концепции административно-деловой центр в 7 этажей площадью до 20 000 м2 будет включать современные офисные помещения, конференц-зал с трансформируемым объемом для проведения деловых мероприятий разного формата, подземный паркинг, ресторан на 150 посадочных мест и гостиничный комплекс на 120 номеров, отвечающий стандартам 4-х звездочного отеля. Также планируется создание объектов бытового обслуживания и торговых площадей, на которых разместятся магазины известных мировых брендов и салоны по продаже сувенирных и ювелирных изделий.

Реализацией данного проекта занимается ООО «Шафаг-88», в активе которого более 30 реализованных инвестиционных проектов на территории Республики Беларусь и за ее пределами. Срок реализации проекта – 42 месяца, в том числе 9 месяцев – этап, связанный со сносом здания. Полная реализация проекта позволит создать порядка 550 новых рабочих мест.

# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№80

Надрукавана на ксеракce.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 17 верасня 2014 г.

ГРАМАДСТВА

■ Уладзімір Лапцэвіч

## ІГАР ПУШКІН: АРХІРЭЙСКАМУ ПАЛАЦУ ПАТРЭБНЫ КВАЛІФІКАВАНЫЯ РЭСТАЎРАТАРЫ

**У Магілёве не шмат унікальных архітэктурных помнікаў. Адзін з тых, што ацалеў, - Архірэйскі палац Георгія Каніскага, што знаходзіцца на Архірэйскім вале. Каля 10 гадоў таму будынак быў перададзены праваслаўнай царкве. У ім быў праведзены і цяпер зноўку вядзецца рамонт з парушэннем норм рэстаўрацыі і рэканструкцыі, лічыць магілёўскі гісторык Ігар Пушкін.**



**Чым цікавы Архірэйскі палац у архітэктурным і гістарычным плане?**

Пабудаваны гэты будынак быў у стылі барока. І будаваўся ён па праекце славутага віленскага архітэктара Іагана Глаўбіца. У Беларусі той вядомы тым, што Сафійскі сабор у Полацку пабудаваны менавіта па яго праекце. Таму мы маем перад сабой не проста помнік эпохі барока, а ўнікальную пабудову, звязаную з жыццём і дзейнасцю такога знакамітага архітэктара.

Праўда, вядуцца спрэчкі – будаваўся ён пад кіраўніцтвам Іагана Глаўбіца ці па яго праекце. Справа ў тым, што па праекце Глаўбіца ў нас быў пабудаваны праваслаўны Спаскі сабор. Верагодна, што Георгій Каніскі замовіў яму не толькі Спаскі сабор, але і архірэйскі дом, Архірэйскі палац.

Таксама вядуцца спрэчкі, калі ж дакладна быў пабудаваны гэты будынак. У навуковай літаратуры пазначаны варыянты ад 1762 да 1785 г. Ёсць прыхільнікі таго, што гэты будынак быў пабудаваны раней, чым памёр Іаган Глаўбіц (1767 г.). Хтосьці кажа, што ён быў зроблены ўжо пазней па яго праекце. Ва ўсялякім выпадку дакладная вядома – у 1785 годзе ў гэтым будынку ўжо жыў Георгій Каніскі. І жыў у ім напрацягу 10 гадоў да сваёй смерці.

А чаго варта асоба Георгія Каніскага! Гэта агульная гістарычная спадчына і беларусаў, і ўкраінцаў. Ён нарадзіўся у Нежыне, быў рэктарам Кіева-Магілянскай акадэміі, напісаў шэраг гістарычных і філасофскіх прац.

**Працяг на стр.2**




### Магілёўцы просяць адказаць гарвыканкам, як ён рамантуе архітэктурна-культурныя каштоўнасці

Адпаведны зварот на адрас гарадской улады падпісалі 24 грамадзяніны.

Нагодай для звароту паслужыў прынятый магілёўскімі чыноўнікамі план на 2014 год, у адпаведнасці з якім у горадзе павінна быць адрамантавана 5 аб’ектаў, якія ўяўляюць сабой гісторыка-культурную каштоўнасць.

У дадзеным выпадку гутарка ідзе пра дом №17 па завулку Камісарыяцкаму, дамы №15 і №17 па вуліцы Першамайскай, дом №33 па вуліцы Піянерскай і дом №10 па завулку Пажарнаму.

Грамадзяне адзначаюць, што прайшло ўжо больш за паўгады, аднак рамонтныя працы на некаторых аб’ектах так і не пачаліся. Людзі падазраюць, што план чыноўнікаў можа насіць выключна дэкларатыўны характар і рамонт на вызначаных 5 аб’ектах не будзе скончаны ў тэрмін.

Трэба адзначыць, што ініцыявала калектыўны зварот газета “НАШ Магілёў”, якая на дадзены момант праводзіць інфармацыйную кампанію “Захаваем стары Магілёў”.

# ІГАР ПУШКІН: АРХІРЭЙСКАМУ ПАЛАЦУ ПАТРЭБНЫ КВАЛІФІКАВАНЫЯ РЭСТАЎРАТАРЫ (ПАЧАТАК НА СТР.1)



Стварыў у Магілёве тэатр, пісаў для яго п'есы, адкрываў тут школы, заснававаў і адкрыў Магілёўскую духоўную семінарыю і г.д. Менавіта яго барыльеф ёсць на помніку 1000-годдзя Русі, які ўсталяваны ў 1862 годзе ў расійскім Ноўгарадзе. Вось такая знакамітая асоба жыла ў Магілёве і ў 1993 годзе была кананізавана праваслаўнай царквой.

Варта падкрэсліць тое, што Магілёў у часы жыцця Каніскага быў цэнтрам адзінай праваслаўнай епархіі ў Рэчы Паспалітай. Такая выключнасць можа прывабіць сюды турыстаў. Магілёву трэба захаваць гэты будынак XVIII стагоддзя і адрэстаўраваць так, каб ён быў такім які быў па праекту Іагана Глаўбіца. Набыў рысы помніка эпохі барока.

Сёння мы бачым яшчэ нішы пад скульптуры, пэўнае аздаблене фасада. Але я ўпэўнены, што выявы святых былі не толькі ў нішах, але і па карнізах, наверсе, на паддашшы. На жаль, цяпер мы не маем магчымасці пабачыць, як выглядаў гэты будынак напрыканцы XVIII стагоддзя.

**На першы погляд здаецца, што будынак дагледжаны…**

Праблема ў тым, што на сённяшні дзень бязглузда, няправільна, без аніякай адказнасці вядзецца яго рамонт. Асноўны быў праведзены крышачку раней, а зараз робіцца бягучы. Першы рамонт быў зроблены гадоў 10 таму, калі яшчэ толькі аддалі праваслаўнай епархіі. Менавіта тады, каб не пабурыліся сцены, іх умацавалі заліўшы ўнутры звычайны бетон, што з'яўляецца парушэннем правіл рэстаўрацыі. Акрамя таго, будынак пакрыт металадахоўкай, што нікуды не годна. Мы бачым, што ніякіх прыкмет эпохі барока там няма. Да таго ж прабілі капітальную сцяну, убудавалі туды звычайныя гаражныя вароты для аўтамабіля. Унутры знішчана лесвіца XVIII стагоддзя, па якой хадзіў Георгій Каніскі.

Мы бачым, што на сённяшні момант шмат што страчана. І працы па сапраўднай, кваліфікаванай рэстаўрацыі не вядуцца. Я баюся, што ў хуткім часе наогул гэты будынак знікне як помнік архітэктуры.

**Што трэба зрабіць, каб пачалася нармальная рэстаўрацыя?**

Паколькі гэта ўсё ж такі помнік, які ўнесены ў дзяржаўны спіс, то трэба запатрабаваць ад уладальнікаў, каб яны праводзілі рэстаўрацыю ў адпаднасці з тымі правіламі і законамі, якія дзейнічаюць у Рэспубліцы Беларусь.



Ігар Пушкін, магілёўскі гісторык

На сёняшні момант трэба адшукаць планы будынка, а яны ёсць, у архівах Сінода. Праўда, гэты архіў у Санкт-Пецярбурзе, але тым не менш. Трэба знайсці першапачатковы праект і аднавіць Архірэйскі палац такім, якім ён быў у XVIII стагоддзі. Правесці археалагічныя даследаванні побач з будынкам.

**Ці гэта магчыма зараз?**

У прынцыпе, тэарэтычна, да. Будынак не страчаны для сучаснікаў і нашчадкаў. Так, там былі зроблены парушэнні – прабілі сцяну, часткова змянілі ўнутраны інтэр'ер, планіроўку і можа штосьці яшчэ. Мы не ведаем усё да канца, таму што сапраўдны нагляд спецыялістаў і грамадскасці пры бягучым рамонце не праводзіўся, як не было археалагічных раскопкаў побач з будынкам. Ніхто не вывучаў падмуркі – у якім яны стане? Тым не менш, будынак жа ёсць.

Таму цалкам магчыма паступова, спачатку вывучыўшы навуковую літаратуру, планы, распрацаваць выдатны праект. А далей сумеснымі намаганнямі грамадскасці, дзяржавы і праваслаўнай царквы аднавіць Архірэйскі палац, звязаны з нашай гісторыяй і архітэктурнай спадчынай.

Дарэчы, гэты будынак мае дачыненне і да вайны 1812 года, перыяду Першай сусветнай вайны, і нават да рэвалюцыйных падзей. У яго скляпеннях у 1918 годзе дапытвалі і растрэльвалі людзей. Архірэйскі палац - помнік асветніцтву, адукацыі, веры, рэвалюцыйным пераўтварэнням. Ён - сведка трагічных старонак нашага жыцця, і яго аднаўленне - гэта надзея на будучыню нашага народа.



■ Станіслаў Дубовік

# ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА: БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

**Пра адбудову Свята-Пакроўскага храма, які калісьці існаваў у раёне сённяшняга Падніколля, размовы ідуць напрацягу апошніх 15 гадоў. Але асаблівую актыўнасць яны набылі зараз, калі гарадскія ўлады распачалі дзеянні па стварэнні на той тэрыторыі парку адпачынку. Калі прывіду Пакроўскай царквы наканавана матэрыялізавацца, то ці будзе яна выглядаць як сто гадоў таму альбо гэта будзе новабуд, пазбаўлены якой-кольвечы сувязі з магілёўскай даўнінай?**



Цяперашнія магілёўцы, калі нешта і чулі наконт існавання Пакроўскай царквы, то наўрацці яны здолеюць хаця б прыблізна апісаць яе. Зруйнаваны савецкімі варварамі храм практычна знік з памяці насельніцтва горада. Нават усталяваны ў 2007 годзе ў Падніколлі памятны крыж, не ў стане пакуль вярнуць памяць большасці магілёўцам аб існаванні калісьці на правым беразе Дняпра цэлага Пакроўскага пасада.



По дайшоўшых да нас звестках і фотаздымках, Пакроўская царква была пабудавана напрыканцы XVII стагоддзя з цэглы ў традыцыях Магілёўскай школы дойлідства. Як распавядаецца ў Энцыклапедычным даведніку "Дойлідства Беларусі", гэта быў крыжова-купальны храм. Ва ўсходняй частцы ён завяршаўся трыма паўцыліндрычнымі апсідамі, у заходняй — прытворам і дзвюма рызніцамі па баках асноўнага аб'ёму. Над сяродкрыжжам узвышаўся васьмігранны светлавы барабан, накрыты сферычным купалам з цыбулепадобнай галоўкай на высокай васьміграннай шыйцы. Тарцы асноўнага аб'ёму і крылы трансептаў завяршаліся трохкутнымі франтонамі з паўцыркульнымі нішамі ў цэнтры. Куты аб'ёмаў і сцены рызніц былі дэкарыраваныя пілястрамі, аконныя праёмы мелі паўцыркульную форму. Па перыметры будынак быў апяразаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры чатыры масіўныя слупы пры дапамозе ветразяў падтрымлівалі барабан купала.

Па словах вядомага магілёўскага гісторыка Ігара Пушкіна, напрыканцы 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ён працаваў дырэктарам Музея гісторыі Магілёва, да яго падыходзілі прадстаўнікі праваслаўнага брацтва, якія прыносілі ўзгодненую дакументацыю пабудовы царквы на Падніколлі. "Але яны планавалі пабудаваць на тым месцы зусім іншую царкву. То бок назваць царкву Пакроўскай, але гэта царква ні вонкава, ні па праекту, ніякім чынам не нагадвала б тую Пакроўскую царкву, якая там стаяла. На тым чарцёжы я ім напісаў, што не супраць Пакроўскай царквы, але за адбудаваную такой, якая была першапачаткова", - кажа гісторык.

Пры гэтым ён адзначае, што ўсталяваны на Падніколлі памятны крыж месціцца не там, дзе стаяла Пакроўская царква, і падмуркі, якія знаходзяцца побач з ім, належаць зруйнаванаму касцёлу Святога Антонія.

"Крыж, які зараз там стаіць, стаіць не на месцы Пакроўскай царквы. Ён стаіць на месцы касцёла Святога Антонія, які там існаваў. Царква стаяла крышачку ў іншым месцы. Яна была бліжэй да манастыра. Таму можна правесці даследаванне, бо захаваліся падмуркі. На гэтых падмурках трэба адбудаваць Пакроўскую царкву", - заяўляе Ігар Пушкін.

Працяг на стр.4